Чытайце ў нумары: Джунглі · Ад 400 да 42 000 000 · З Нілам Гілевічам


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (448) | ГОД IX | 27 ВЕРАСНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ

* * *

Шкадую ўсіх, хто за мяне зласней,
Хто багацей кутамі і грахамі..,
Хай багацее ліхам ліхадзей,
Скупы — дабром набітымі мяхамі!
Яно ж, напэўна некалі згніе,
Прысуд кутам благім напіша плесень...
Мінуўшчына дарэмнае пяе,
Нядоўгі век яе бяззубных песень.
Яшчэ грашаць, хаця б адным пітком,
А то маною, зайздрасцю ліслівай...
Іх цяжка паламаць, грахі — не лом,
Карэнне іх жывучае на дзіва.
Шкадуючы, я паўстаю душой
Супроць таго, што песня не прымае.
Жыву сярод багатых дабратой
І прыгажосцю песеннага краю.
Дык хай «грашыш» адвагай маладых
І злосцю, што рабоце аддаецца!
Хай упрыгожыць лепшыя гады —
Каханнем, што здаўна святым завецца!




Тытунёвых вёсак многа на Сакольшчыне і Дуброўшчыне. Мы, аднак, наведалі Хілімоны — вёску, што непадалёку ад Дубровы.

Аказваецца, што тытунь — гэта не толькі бяда на чалавечае здароўе і лаянка жонкі, што калі ты, маўляў, капціць перастанеш. У Хілімонах мы даведаліся, што тытунь — гэта перад усім грошы. Не тыя, якія трэба шукаць па кішэнях, каб купіць пачку «спортаў», але тыя, якія сыплюцца ў кішэню тысячамі.

Пад'язджаючы да Хілімонаў, вы здалёк пачуеце пах тытуню. А ўехаўшы ў вёску, вы ўсюды ўбачыце тытунь: абвешаны ім шчыльна сцены хат, хлявоў і гумнаў, абвешаны ўсе платы і плоцікі, даслоўна — усюды тытунь. У Хілімонах усё з тытуню: новыя дамы, сельскагаспадарчыя машыны, матацыклы і г.д. Не даслоўна, не. Проста, каб не тытунь, хілімонаўцы не мелі б за што справіць сабе гэтых рэчаў.



У кожнага гаспадара ў Хілімонах ля гумна — манеж.



Вуліца ў Хілімонах.

**Некаторыя з сялян у Хілімонах кантрактуюць нават па цэлым гектары тытуню. А за гектар тытуню можна потым узяць каля 40 тысяч злотых. Нічога тады дзіўнага, што сяляне ў Хілімонах будуюць прыгожыя дамы і купляюць сабе розныя дарагія машыны.**

**Кожны з гаспадароў у Хілімонах мае нейкую сельскагаспадарчую машыну, некаторыя маюць іх па некалькі. У Хілімонах даўно забылі, як рукамі рэзаць сечку, кожны мае тут свой манеж (керат), што трэці гаспадар мае сваю малацілку, што чацвёрты матацыкл, многія купляюць сабе новую мэблю.**

**А зямля ў Хілімонах не найлепшая і зямлі маюць тут не найбольш, прытым вёска аддалена ад гарадскіх цэнтраў.**

**— Без тытуню мы б тут даўно збанкрутавалі, — гавераць у Хілімонах сяляне.**

**Вялікая колькасць прыватных машын была, мабыць, прычынай таго, што толькі ў гэтым годзе паўстаў тут сельскагаспадарчы гурток. Сяляне, відаць, нарэшце дайшлі да вываду, што не ўсе машыны можна купіць за свае грошы. Ды і не аплочваецца, калі можна з іх карыстаць супольна. Скажам трактар. Зараз сельскагаспадарчы гурток мае ўжо аж два трактары. І праз усё лета мелі яны работы «поўны рукі».**

(Працяг на стар. 4)

# АДНАК ПАБУДАВАЛІ

**Вацлаў Залеўскі прыйшоў працаваць у Скраблякі настаўнікам чатырохкласнай школы два гады назад. Школа мясцілася ў прыватнай хаце, у адным пакойчыку. Цесна, цёмна, нявыгадна.**

**Вёска даўно ўжо падумвала аб тым, каб неяк збудаваць школу, нават грошы пачалі збіраць, але на тым і скончылася.**

**І вось у лістападзе 1962 года справа рушыла. Аддзел асветы згадзіўся даць Скраблякам 300 тысяч злотых. Каб збудаваць школу, гэтага, вядома, мала. Але людзі ўцешыліся: будаваць будзем самі — было б з чаго!** Прыемную нечаканасць зрабіла МРН у Беластоку. Падарыла вёсцы два драўляныя будынкі, прызначаныя на знос. Драўняныя дык драўняныя. Падаранаму каню ў зубы не глядзяць. Сабралі па хатах грошы, нанялі транспарт, прывезлі.

І млын закруціўся. Працавалі пераважна ў нядзелі. У буднія дні хапала работы на гаспадарках. Капалі, мяшалі растворы, дапасоўвалі. Усё рабілі самі. Не спадзяваліся, што ім нехта заплаціць. Ведалі, што працавалі для сябе, для сваіх дзяцей.

Спачатку ўзяліся дружна. Выбралі грамадскі камітэт будовы і пачалі будаваць. Працаваць выйшлі нават дзядулі і бабулі. Як, напрыклад, найстарэйшы ў вёсцы чалавек Максім Налівайка, Васіль Налівайка, Якуб Дуброўскі, нават бабулі Меланія Дуброўская і Аляксандра Харужая. З кожнай хаты (за выключэннем адной, у вёсцы добра ведаюць якой) людзі працавалі пры будове. Працавалі, каб іх унукі не псавалі вочы ў цёмным закутку, каб мелі ўласную школу і пляцоўку на гульні.

І як часта бывае ў такіх выпадках, хутка першы запал мінуў. Ніхто не меў лішняга вольнага часу, але школу трэба было скончыць, калі ўжо пачалі. Знайшліся і такія, што адмовіліся катэгарычна: «Я доўга ў вёсцы жыць не буду, выеду, навошта мне будаваць». «А мне не трэба школы, мае дзеці ўжо дарослыя», — гаварылі другія, калі кіраўнік Вацлаў Залеўскі прасіў прывезці воз жвіру ці выйсці на пару гадзін на пляц будовы. Некаторыя менш адважныя, проста пачалі хавацца, калі бачылі, што Залеўскі заварочваў на іх панадворак. Але кіраўнік школы не здаваўся. Ведаў, што людзі маюць і сваёй работы, як завязаць, але калі ўжо пачалі будаваць, дык трэба скончыць. Нельга выкінуць на сметнік здабытыя грошы і матэрыялы, шкада змарнаваць такой аказіі мець школу, ды яшчэ пры такіх умовах, калі вёска нават святліцы не мела. Хадзіў па два-тры разы, прасіў, угаварваў.

Людзі слухаліся, ішлі. Не маглі адмовіцца, моцна паважалі і шанавалі гэтага чалавека. Дзівіліся толькі: ці ж яму найбольш трэба! Яму ж таксама не плацяць. Сёння працуе ў нашай вёсцы, на будучы год можа працаваць у іншай. А мае ж у суседняй вёсцы сваю гаспадарку, сям'ю, уласныя справы, нават кіруе сельгасгуртком у Вераб'ях. А тут прыходзіць у Скраблякі ні свет ні зара, каб хоць людзей застаць у хатах ды папрасіць выйсці папрацаваць. Не злаваўся, калі людзі адмаўляліся: не можа сёння; дык выйдзе заўтра.

І сёння, калі школа прыняла ў свае класы шумлівую дзетвару, часта людзі вяртаюцца думкамі да тых напружаных месяцаў, калі не было ні адной нядзелі, каб не працавалі, ды яшчэ як працавалі! «Каб не кіраўнік школы, — гаварыла мне Ніна Дуброўская, — не збудавалі б мы школы. Не хапіла б запалу. Здаралася, што ніхто не выйдзе да працы. Кіраўнік працуе пры будове адзін. Паглядзяць, паглядзяць на гэта людзі, зноў ідуць памагаць.»

(Працяг на стар. 5)





А. Бэргман: НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД МІЖВАЕННАГА ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ.

Ул. Дваракоўскі: НА СВІТАННІ.

А. Карпюк: ПАД РАЗВАГУ НЕ ТОЛЬКІ НАСТАЎНІКАМ.

В. Леўчук: НА НАРОДНАЙ ГЛЕБЕ.

